# Чыста жахлівае

Новыя зьвесткі пра маскавіта
які некалькі дзён таму, у Кароне
Польскай, Полацак – славуты горад,
і крэпасьць Літоўскай зямлі,
з жудасным дэспатызмам захапіў
і перамог, у выглядзе
жаласнага вершу
складзеныя

Ёганам Райнхардам
Гравінгеліем

Год 1563.

+

**Літасьціваму і добра адукаванаму Даві-**
ду Райнхарду, **у аўгустынскі калегіюм**
у Эрфурце, Майму добраму
любаму брату.

БОССКАЙ ласкі праз Хрыста перад усім. Добры любы брат, з брацкай любові я не магу ўтрымаць ад цябе, што некалькі дзён таму сюды ў Прусію прыйшлі вельмі жахлівыя Новыя зьвесткі з Літвы, а менавіта пра тое, як маскавіты насамрэч з вялікім войскам уварваліся ў пазначаную зямлю і нядаўна захапілі і перамаглі Полацк, які мусіць быць славутым гандлёвым горадам і крэпасьцю, таксама яны ўчынілі і зьдзейсьнілі там жудасныя забойствы і дэспатызм. Падобнага плачу, калі Бог міласэрна не ўратуе, прадбачым і чакаем мы таксама тут у Прусіі ў хуткім часе. Той плач славутага горада Полацка я склаў у простым жаласным вершы і перасылаю яго табе, і прашу пры гэтым, каб ты пажадаў разам з іншымі годнымі хрысьціянамі ад усяго сэрца заклікаць да Бога, вернага Дапаможніка, каб ён быў літасьцівы да нас і з Айцоўскай дабрыні і спагады пажадаў адвесьці ад нас, няшчасных грэшнікаў, справядліва заслужанае пакараньне, амэн. На гэтым, будзь здаровы і суцяшай нашага старага пажылага айца. Кёнігсберг у Прусіі, на дабравешчаньне Марыі, год 1563.

**Т.Л.Б.**

**Ёган Райнхард**
**Г.**

# Жаласны плач горада Полацка.

БОГ сьхіліў да мяне сваё сэрца,
І выказаў мне вялікую ласку.
Тым што ён даў мне цела і жыцьцё,
І цудоўны спакой.
З гэтага можна была б добра ўбачыць,
Што кожны павінен быць пабожным.
Аднак я пагарджаўся гэтым,
І дрэнна праводзіў свае дні.
У жратве, пьянстве, блудзе,
У фанабэрстве і шматлікім махлярстве.
У ліхвярстве, скупасьці і таксама ў падмане,
Нават гэтага мне бы хапіла.
Не адказвайце на мае на мае наступныя пытаньні,
Не клапаціцеся, што скажа мне на гэта Бог.
Падсумуй, я рабіў мала пакаяньняў,
Таму я мушу цяпер пакутваць.
І бачыць такое гора,
Якое ніводны чалавек не можа вымавіць.
Вось праз варожую руку
Забранае ўсё, што было маім.
Вось пакутуе мая жанчына і дзіця,
І ўсё, што можна знайсьці ў мяне.
Адчуйце вельмі вялікую скруху,
Шмат смутку і журбы.
Адна частка згубіла сваю кроў,
Другой без яе дрэнна.
Шмат вас закавалі ў ланцугі,
І ўвялі ў далечыню.
А сярод маскавітаў нікога,
Хаця гэта яны мусілі трапіць у палон.
Хаця гэта яны мусілі цярпець гора і
Нястачу, і нарэшце нават сьмерць.
О, ты, нежная цнатлівіца,
Як растапталі тваю нявіннасьць.
Бо ў цябе адабралі такі скарб,
Які ты ніколі ня можаш вярнуць.
Ах, каб толькі пакараў мяне Гасподзь
Чумой, і ўсталяваў мір.
Каб я не быў, як я зараз,
Цалкам засмучаны ў маёй душы.
Бо мусіць ужо спыніцца шматлікае гора,
Якое бачыла мае сэрца.
Я зранены ляжу перад усім сьветам.
Разам са мной знайшлі канец золата і грошы.
Я раней і не думаў,
Што Бог настолькі поўнасьцю на мяне
Павінен выліць свой гнэў,
Які часта цёк на мяне.
Каб я даўно зрабіў пакаяньне,
То мне не было б так дрэнна.
Каб я надзеў мяшок,
І пасыпаўся попелам.
І каб аплакаў усе мае грахі,
То вораг так не душыў бы мяне.
То мае справы былі безумоўна лепшымі,
О, гора, гора, ах і ах.

БОГ сэрца сваё схіліў да мяне
І ласку вялікую выказаў мне.
Праз тое, што цела стварыў ён маё,
Спакой даравaў і самое жыцьцё.
Праз гэта вы можаце ўбачыць яскрава,
Што набажным быць, гэта кожнага справа.
Але пагарджаўся я гэтым, сябры,
І дрэнна праводзіў свайго жыцьця дні.
У распусьце, абжорстве ды жудасным пьянстве,
У фанабэрстве сваім і шматлікім махлярстве.
У ліхвярстве, і скупасьці разам з падманам,
Аднаго толькі гэтага мне ўжо навалам.
Свае вушы закрыйце ад гэтых патаньняў,
Не важна якіх Бог дасьць мне пакараньняў.
Падсумуй, я рабіў пакаяньняў так мала,
За гэта цяпер мне пакутаў навала,
І глядзець я прымушан на гэткае гора,
Што яго вам ніхто растлумачыць ня здоле.
Вось варожай рукою забранае ўсё,
Што ўчора яшчэ яно была маё.
Маю жонку і дзетак зламілі пакуты,
Усе, хто ў доме маім, у кайданы закуты.
Адчуйце бязмежна вялікую скруху,
Журботы, пакуты і полымя смутку.
Калі палова мая засталась без крыві,
Другой без яе няма шчасьця ў жыцьці.
У вас шмат каго ў ланцугі закавалі,
У чужую зямлю іх без жалю пагналі.
Гэты лёс з маскавітаў не дастаўся нікому,
Хаця яны вартыя былі палону.
Хаця гэта ім варта было гараваць,
Нястачу цярпець і ў журбе паміраць.
О, прыгожая кветка, пяшчотая дзева,
Як бяздушна тваё апаганена цела.
Бо той скарб у цябе адабралі злачынна,
Вярнуць які зараз больш ужо не магчыма.
Ах, Бог мой, наслаў бы Ты лепей чуму,
Чым цярпець мне жахлівую гэту вайну,
Каб такім як цяпер я ніколі ня быў,
Каб той смутак душэўны нарэшце састыў.
Бо мусіць прыйсьці ўжо канец майму гору,
Што бачыла сэрца маё прад сабою.
Перад сьветам усім я сьцякаю крывёй,
І багацьце паблекла там разам са мной.
Паверыць нядаўна яшчэ я не мог,
Што на мяне з гэткай палкасьцю Бог
Захоча абрынуць свой вогненны гнэў,
Які раней па кроплям трапляў на мяне.
Я мусіў даўно ўжо зрабіць пакаяньне,
Тады б я пазбегнуў майго пакараньня.
У мяшок адзецца павінен я быў
І ўскласьці на галаву попел і пыл.
І я мусіў аплакаць свае ўсе грахі,
Каб пазьбегнуць жалезнай варожай рукі.
Каб лепшымі былі мой лёс і жыцьцё…
О, гора, ах гора ты гора маё.

Каб маглі размаўляць усе зоры,
    І кроплі вады мелі языкі.
То яны б не маглі дастаткова мае пакуты
    Ў гэты час апісаць.
Ды калі разам увесь пясок каля мора
    Поўнасцю быў поўны языкоў.
І каб маглі размаўляць лісты і травы,
    І ўсё, што Бог стварыў.
То яны б не маглі выказаць,
    Тое няшчасце, якое прыйшло да мяне ў хату.
Дык гэта не цуд, што я плачу,
    І толькі дарма кроплі крыві скуголяць.
Над той бядой, у якой я знаходжуся,
    І якую бачу зараз перад маімі вачыма.
У маіх нямецкіх наймітаў вораг
    Адняў так проста ўвесь гандаль.
Кожны глядзіць на мяне,
    На тое, чаго ён ніколі ня зьведае.
Тое няшчасце, ў якім я зараз,
    Ах, куды ж мне ўцякаць.
Мне здаецца, Бог свой твар
    Адвярнуў ад мяне і не чуе мяне.
Выпрамлюся я, сагнуся ўніз,
    Павярнуся ў бок, вярнусь назад.
І не знайду ані дапамогі, ані парады,
    Усё гэта робіць мая правіна.
Якую я ў сябе не заўважыў,
    І хутка адвярнуўся ад яе.
Менавіта таму кожны мусіць сьцерагчы сябе,
    Калі ён не хоча перажыць падобнае няшчасьце.
Якое я цяпер перажыў,
    Тое я зараз абвяшчаю ўсім людзям.
І асабліва гэтай прусскай зямлі
    Мусіць быць вядомы мой смутак.
Бо вораг вельмі трыумфуе,
    Мяркую Нямеччыну таксама будзе наступнай.
І пагэтаму без сораму
    Я раблю ад усяго сэрца пакаянне за твае грахі.
Слухайце старанна слова Бога,
    І калі вы пачуеце яго
То прыміце яго з усёй сурьёзнасьцю,
    І галасіце добрасумленна ў яго сэрца.
А потым жывіце таксама на зямлі,
    Такім чынам усе справы будуць добрыя.
Бо калі чалавек вернецца да Бога,
    То ён зьведае вялікую ласку.
Аднак калі чалавек не зробіць гэта,
    То гэта адведае нарэшце чалавечая кроў.
Урад, пануйце стала
    І бараніце тое, што вы павінны бараніць.
І карайце з суворасцью махлярства,
    І мейце чыстае сумленьне.
Каб пабожны мог мець спакой
    На зямлі і таксама ў дадатак мір.
Падданыя вельмі жадаюць
    Быць паслухмянымі ўраду.
Бо ГАСПОДЗЬ прызначыў іх
    Сваёй міласэрнай мудрай парадай.
Таксама дзеці са стараньнем жадаюць
    Рабіць паводле слоў сваіх бацькоў.
Таму любы Бог гэта
    Запаветаў у чацьвёртым запавеце.

Каб мелі дар мовы нябесныя зоры,
    І кроплі вады маглі весьці размовы,
То пра пакуты мае ў гэты жудасны час
    Яны б не маглі распавесьці для вас.
Каб нават пясок, што ля мораў ляжыць,
    Языкі атрымаў і мог разам ажыць,
Каб мелі свой голас трава і лістоты,
    І ўсе разнастайныя Бога істоты,
То выказаць вам не маглі нават разам
    Няшчасьце, што ў хату прыйшло мне паразай.
Таму майму плачу, прашу, не зьдзіўляйцесь,
    Дарэмнага стогну крыві не пужайцесь,
Што стогне над тою бядой, дзе я зараз
    Знаходжуся, бачу яе і жахляюсь.
Купцоў маіх слаўных той вораг прагнаў,
    І гандаль увесь ён у іх адабраў.
Глядзяць на мяне вочы кожнай душы,
    На тое, што ім не спазнаць нікалі.
На тую бяду, у якой зараз я,
    Ах, куды мне бяжаць, дзе радзіма мая.
Мне здаецца, свой твар схаваў Бог ад мяне,
    І ня чуе аб літасьці стогны мае.
Стану прама як слуп, альбо долу сагнуся,
    Пагляджу я ў бок, ці назад павярнуся,
Але не знасьці мне ўратунку й парады,
    Правіна мая ўчыніла мне здрады,
Якую я сам за сабой не заўважыў,
    Забыўся яе і сябе тым зьняважыў.
Вось таму кожны мусіць глядзець за сабой,
    Калі хоча не знацца з падобнай бядой,
Якую я зараз спаўна перажыў,
    І на суд паспаліты людзям абвясьціў.
І асабліва вось гэтаму прускаму краю
    Мой смутак павінны вядомым быць. Раю.
Бо вораг трыумф свой паўсюду святкуе,
    Баюся Нямеччыну ён не мінуе.
Таму я без сораму і засмучэння
    Пакаянне раблю за тваё пакаленне.
Старанна выслухвайце Боскае слова,
    І калі яго чуць ваша вуха гатова,
Прыміце яго з усёй строгасьцю вашай,
    У сэрца яму няхай кожны заплача.
А потым жывіце сабе на зямлі,
    Так вам добрыя толькі спаткаюцца дні.
Бо калі чалавек да Бога вярнецца,
    Вялікая ласка яму дастанецца.
Але калі ён усё ж гэта не зробіць,
    То кроў’ю сваёй грэх нарэшце ўмоець.
А вы, паны рады, пануйце сумленна,
    Бараніце адважна краіны надзелы.
З суворасьцю люта махлярства карайце,
    І сумленьне заўсёды чысьцюткім трымайце.
Каб людзі пабожныя мелі спакой,
    І з мірам жылі на зямельцы сваёй.
Падданыя вашы жадаюць заўсёды
    Выконваць сумленна ўрада законы,
Бо ласкава ГАСПОДЗЬ ім прызначыў урад,
    Бясконцаю мудрасьцю добрых парад,
Таксама як дзеці жадаюць старанна
    Выконваць наказы бацькоў беззаганна.
Таму любы Бог людзям гэта прызначыў
    І ў адным са сваіх запаведаў адзначыў.

І тыя, што атрымалі стан бацькоў,
 што таксама заснавана ГОСПАДАМ,
То на айцэ і маці ляжыць,
 Што яны гадуюць сваіх дзяцей
У сапраўднай пакорлівасьці
 Да страху перад Богам і прыстойнасьці.
Будзь ты парабкам, ці парабчанкай,
 Табе прадпісана служыць.
То будзь верным тваім панам і пані,
 Думай, што за гэтым назірае твой Бог.
Які дакладна можа ў любы час даць табе
 Багатую ўзнагароду за верную службу.
Падсумуў паўсюль тое,
 Чым ты спадабаўся Богу.
Такім чынам ГАСПОДЗЬ будзе стрыжням,
 Які не выкідаюць у вагонь.
І адвядзе пакараньне і пакуты,
 Якія б ты інакш сувора атрымаў.
Калі ты ня вернешся да БОГА
 І не адкінеш вялікія грахі.
Сапраўдна бедны засмучаны горад,
 Прымі маю верную параду.
Жадай з радасьцю таго, што ува мне
 ўвесь час бачылі ўсе.
І паляпшай са стараньнем і роўнасьцю
 Сваё злое і грахоўнае жыцьцё.
Таму, дарагія сябры, адкладзіце
 Сёньня рамяство цемры
І вазьміце зброю сьвятла,
 Немагчыма пажадаць вам нічога лепей.
Кожны няхай старанна прыводзіць сябе
 Да файнага жыцьця і прыстойнасьці.
Не жраць і напівацца шмат,
 Не тое, чаго жадае яго стары Адам,
Але ў сваёй умеранасьці
 Няхай трымае сябе ў кожны час.
Такім чынам Семя Жанчыны
 Памілуе вас. Амэн.

А тыя, што сталі на шчасьце бацькамі,
 Таксама ад ГОСПАДА то атрымалі,
Таму на айцэ і на маці ляжаць
 Абавязкі малечаў сваіх навучаць
У сапраўднай пакоры да падпарадкаваньня,
 Да страху прад Богам і да выхаваньня.
Калі парабак ты, ці парабчанка якая,
 Табе служба прадпісана без нараканьня.
То верным будзь пану, альбо пані тваёй,
 Бо сочыць няспынна твой Бог за табой.
І Ён табе пэўна ў зусім хуткім часе
 За верную службу багата аддзячыць.
Узгадай, падлічы, не пакінь анічога,
 Чым выклікаў ты падабаньне у Бога.
То ПАН БОГ будзе стрыжням табе ў жыцьці,
 Што ў вагонь не кідае ніхто нікалі.
Адвядзе Ён паразу й пакуты падалей,
 Якія б інакш цябе ўраз напаткалі,
Калі б ты да БОГА твайго не вярнуўся
 І да грэху вялікага зноўку імкнуўся.